ТЭМА ДНЯ Ў КАНВЕРЦЕ

# "Акно ў Еўропу" з відам... на Беларусь?

**Перачытваю рэдакцыйную пошту. Пішуць чытачы з розных месц і на розных мовах. І пішуць аб розным. Але характэрна тое, што галоўнай тэмай апошніх дзён сталі ўзаемаадносіны паміж Беларуссю і Расіяй.**

**Пісьмы чытачоў не маюць патрэбы ў каментарыях, тым больш што пазіцыя газеты — гэта сукупнасць пунктаў гледжання нашых аўтараў. Я дазволю сабе толькі коратка пераказаць сюжэт, па якому развіваліся палітычныя падзеі апошніх тыдняў.**

**У пачатку лютага на парламенцкай асамблеі ў Страсбургу абмяркоўвалі пытанне аб прыёме Расіі ў Савет Еўропы. Але спікер Дзярждумы Расійскай Федэрацыі Іван Рыбкін, які планаваў напачатку ляцець у Страсбург, нечакана прызямліўся... у Мінску. Да яго з інтэрвалам у некалькі дзён у нас ужо пабывалі расійскія эмісары — віцэ-прэм'ер Аляксей Бальшакоў, міністр замежных спраў Андрэй Козыраў, старшыня камітэта Дзярждумы Канстанцін Затулін. І калі першыя двое сапраўдныя мэты сваіх візітаў палічылі не абнародаваць, дык, паводле тэрміналогіі Канстанціна Затуліна, акрамя прапрацоўкі вялікага дагавора аб эканамічнай інтэграцыі, удалося ажыццявіць "прарыў на беларускім фронце".**

**Логіка, як бачым, выключна расійская: "Добра было б і рыбку з'есці, і ў лужыну не сесці..."**

**У Страсбургу, як вядома, дыстанцыраваліся і ад Расіі, і ад яе ўнутраных праблем, зачыніўшы на час перад ёю дзверы ў Еўропу. Ну і няхай, вырашылі ў Крамлі: паспрабуем улезці праз акно... Акно ў еўрапейскі дом, як і раней, давядзецца прасякаць праз бліжэйшых суседзяў. І Расія пажадала, каб "акно" было абавязкова з відам... на Беларусь. Ужо адно гэтае памкненне насцярожвае, тым больш што перамовы ў Мінску праходзілі за зачыненымі дзвярыма, а некаторыя расійска-беларускія пагадненні нейкі час захоўваліся ў тайне нават ад дэпутатаў беларускага парламента.**

**Дапускаю, што Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, спікер Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб і прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір — людзі шчырыя. Але ці дастаткова шчырасці ў эмісараў Крамля? А што калі карта ў нашых партнёраў па гульні краплёная? Што тады?**

**Сябраваць з вялікім суседам, вядома ж, трэба — хто спрачаецца. Але, як кажуць, зараз у наскрозь палітызаваным народзе: "Дружба дружбаю, а суверэнітэт у кожнага — свой..."**

**І яшчэ. Хто, скажыце, паўгода назад мог падумаць, што "міратворчасць" Крамля ў Чэчні будзе шытая белымі ніткамі хірургаў палявых шпіталяў? Мне могуць запярэчыць: "Гэта занадта круты паварот сюжэта". Я так не лічу. На расійскай палітычнай сцэне апошніх гадоў павароты сюжэта проста непрадказальныя. Як у Шэкспіра.**

**...Такім чынам, перад вамі калектыўны палітычны агляд, напісаны чытачамі "Народнай газеты". Або, калі хочаце, мікрарэферэндум чытачоў па пытанню саюза паміж Беларуссю і Расіяй.**

**Слова — чытачу.**

Іосіф КАЛЮТА,
аглядальнік "Народнай газеты"
па міжнародных пытаннях.

Альтэрнатыўны погляд

## Што самі пасеем, тое і пажнём...

Існуюць пяць прынцыпаў эканамічнага суверэнітэту дзяржавы, якія пакуль што ніхто ў свеце не аспрэчваў: 1) выключнае права грамадзян краіны на валоданне, карыстанне і размеркаванне нацыянальнага багацця; 2) толькі вышэйшыя органы сваёй краіны кіруюць прававымі адносінамі ў дзяржаве; 3) вярхавенства законаў краіны; 4) самастойная фінансавая і падатковая сістэмы; 5) самастойнае вызначэнне структуры дзяржаўных органаў кіравання.

Для чаго я прыгадаў гэтыя пяць прынцыпаў? А для таго, каб даць зразумець, што амаль палова з іх патэнцыяльна ўжо скасавана падпісаннем у Маскве дагавораў аб мытным саюзе і расійскіх ваенных базах, аб банках і гандлі без абмежаванняў... Няма сакрэту, што, калі губляецца эканамічны суверэнітэт, губляецца і палітычная самастойнасць дзяржавы.

Няўжо спадар А.Р.Лукашэнка не разумее, што такія захады згубныя для суверэннай краіны?

Прыводзіць мяне ў адчай і вось якая акалічнасць. Трэцяга лютага радыё "Свабода", расійскае НТБ, а чацвёртага і "Народная газета" паведамілі аб магчымым ініцыіраванні ў рэспубліцы рэферэндуму аб увядзенні другой дзяржаўнай мовы — рускай, а таксама аб змене дзяржаўнай сімволікі. Я мяркую, што менавіта ў гэтых варунках жыцця і кіравання краінай (улічваючы нашу нацыянальную рысу — паважаць суседа больш, чым самога сябе) беларусы як піць даць могуць выказацца і за рускую мову. Тым самым яны падпішуць прысуд самім сабе. Пакуль не позна, давайце падумаем пра тое, што разам з матчынай мовай знікнуць і самі беларусы, знікне краіна. Бо не назад, не ў Савецкі Саюз клічуць Беларусь, а ў Расію. А знікне суверэнная краіна — знікне і сама пасада Прэзідэнта... Знікне і сам народ.

**Анатоль КАЛАЧОЎ,**
**кандыдат эканамічных навук, дацэнт, былы старшыня калгаса "Ленінец" Капыльскага раёна.**

Исповедь

## Свет в конце туннеля мы увидим не скоро?

Все мы сегодня живем, как в погребе: темно, голодно и страшно. Цены на продукты уже не из области гастрономии, а из области астрономии — суммы на ценниках такие, что еще лет пять назад могли привидеться только в кошмарном сне...

... А живем мы, как слепые котята потому, что многие важные решения принимаются за спиной народа и даже Верховного Совета. Вот подписали соглашения с Россией, а официальный текст документа не обнародован, есть только комментарии на эту тему и интервью первых лиц государства. Это как раньше — Библию никто в глаза не видел, но критиковали Библию все. Но даже из отрывочных сообщений ясно — Беларусь опять продешевила. Отчего такие уступки России?

Осмысливаешь такую однобокую политику и приходишь к выводу: нет в мире другой такой страны, которая старается все делать себе же в ущерб.

Россия уронила свой престиж в глазах мирового сообщества из-за военных действий в Чечне — вот она и решила поднять его, прибрав к рукам Беларусь. И зачастили к нам с идеей присоединения высокие гости — А.Козырев, И.Рыбкин, а теперь ждем и самого Б.Ельцина. Боюсь, что наш Президент не устоит перед такими настойчивыми ухажерами и "пойдет под венец". Первый "ход" уже сделан: Александр Лукашенко заявил о необходимости референдума о союзе с Россией, о языке, гербе и флаге. Белорусы привыкли горбеть на работе, они не шибко вникают в политику, и многим из них, поверьте, не до герба сейчас. Для простых людей что союз экономический, что политический — суть одна. Возьмут и проголосуют, как предлагает Президент. И спохватятся только тогда, когда "полетят" цинковые гробы из Чечни или другого государства Кавказа... Но будет поздно — мы уже станем "Северо-западным краем", нацией без своего родного языка, без культуры, без будущего. То-то радости будет в стане Славянского собора "Белая Русь", у "славянских соколов" и иже с ними.

Похоже, что свет в конце туннеля мы увидим не скоро. Так и будем жить в темноте.

Страшно.

**Людмила Николаевна ГРИЩЕНКО,**
**пенсионерка.**
*г.Минск.*

Полемика

## А это, как говорят в Одессе, две большие разницы...

Написать в "Народную газету" меня подтолкнула статья в газете "Правда".

Прочитал беседу председателя Комитета по делам СНГ и связям с соотечественниками Госдумы Российской Федерации Константина Затулина "Нельзя мириться с Беловежьем" и засел за письмо в редакцию. Господин, или точнее, тов. Затулин рассуждает так. Цитирую:

"Время, оставшееся до выборов, надо максимально использовать, чтобы добиться прогресса там, где есть для этого реальные шансы. Я имею в виду Белоруссию. Там, насколько я понимаю, сейчас самое время поднять вопрос о референдуме по поводу политического, экономического, оборонного союза с Россией, воспользовавшись майскими выборами в Верховный Совет. Думаю, успехи в деле сближения России и Белоруссии, если, разумеется, нам будет чем похвастаться, повернут в нашу сторону и Украину, которая пока, увы, предпочитает держаться от нас на некоторой дистанции. А за ней — и другие..."

Надо быть слепцом, чтобы не увидеть в этом заявлении грубый вызов, брошенный по адресу суверенного государства. Размышления в лживой "Правде" тов. Затулина можно квалифицировать как прямое вмешательство в дела суверенной Республики Беларусь со стороны высокопоставленного деятеля России. Вы можете представить такую ситуацию: парламент Турции в ультимативном тоне предлагает Греции провести референдум о присоединении ее, скажем, к Израилю? Я такого представить не могу.

Это первое.

И второе. У тов. Затулина ко всему еще и нелады с географией. Страны под названием Белоруссия — нет. Есть суверенная Республика Беларусь! А это, как говорят в Одессе, две большие разницы...

**Аркадий СИМАНОВИЧ,**
**ветеран войны и труда.**
*г.Орша.*

Настрой тыдня

## Жыццё адно і Бацькаўшчына адна

З трывогай і абурэннем стаўлюся да таго факта, што пэўныя колы Расіі і Беларусі рыхтуюць, так бы мовіць, глебу для новага "непарушнага саюза". Якое, прабачце, яшчэ патрэбна аб'яднанне? Мы і так ўваходзім у Садружнасць Незалежных Дзяржаў. А час вялікіх і бязглуздых імперый адышоў у нябыт...

Беларускі народ займеў права жыць самастойна. Пройдзе час, і, пазбавіўшыся ад расійскага "гіпнозу", мы зможам дамагчыся добрых поспехаў, як, да прыкладу, гэта зрабілі палякі, чэхі, літоўцы, фіны і іншыя, хто пазбавіўся ад непатрэбнай апекі.

Беларускі народ мае багатую гісторыю, якая пачыналася яшчэ ў Полацкім княстве незалежна ад Кіеўскай і Маскоўскай Русі. Дарэчы, С.Будны, С.Полацкі жылі і тварылі яшчэ да Ламаносава. Складаць вершы той жа Міхайла Ламаносаў вучыўся ў Сімяона Полацкага. А першыя кнігі былі надрукаваны не ў Маскве, а на Беларусі.

Прыгадваю ўсё гэта, каб зрабіць выснову: у нас ёсць багатая спадчына, ёсць суверэнітэт, які юрыдычна ахоўваецца Канстытуцыяй. Значыць, у нас ёсць усе правы і на будучыню.

**М.ГІРКО.**
*г.Мінск.*

Пытанне Прэзідэнту

## Як рулім, так і едзем

Не трэба быць палітолагам, каб зразумець, што Беларусь патрэбна Расіі найперш як "бясплатны транзіт" для чыгуначнага і аўтамабільнага транспарту, для газа- і нафтаправодаў у заходнім накірунку, як танная і кваліфікаваная рабочая сіла, а пры крызісных сітуацыях і як "пушачнае мяса" ў "гарачых кропках" накшталт Чэчні, Абхазіі, Таджыкістана...

Вось чаму мне хочацца нагадаць нашаму Прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку, (я, дарэчы, галасаваў за яго ў другім раўндзе выбараў), што далёка не ўсе беларусы — славянаборцы, камунаімперцы і інш. Мы любім сваю Беларусь, як Ельцын Расію, як Бразаўскас Літву, як Акаеў Кыргызстан. Мы хочам на сваёй радзіме быць гаспадарамі, а не пешкамі ў закулісных гульнях аб мэтазгоднасці сумеснага пасяджэння беларускага парламента і Дзярждумы Расіі.

Паверце, спадар Прэзідэнт, мне сорамна, калі пра беларусаў выказваюцца, як пра нацыю халуёў, атручаных Чарнобылем і камуністычнай прапагандай. Калі Вы самі не вельмі шануеце беларускую мову, культуру, Бацькаўшчыну, нацыянальную сімволіку, то трымайце гэта пры сабе. Навошта ліць ваду на антыбеларускі "млын"? Будзьце ў грамадстве гарантам кансалідацыі, а не канфрантацыі. У такім выпадку Вас будуць паважаць і ў рэспубліцы, і ў Маскве, і ў свеце, як паважаюць А.Бразаўскаса і яго малую, але ганаровую Літву...

З павагай Ваш выбаршчык

**А.ЗЕЛЯНКОВІЧ.**
*г.Бабруйск.*

Попытка экспертизы

## Изобилие не завезешь, как бусы папуасам. Экономику надо терпеливо строить самим...

Россия, раздираемая внутренними и внешними противоречиями (как тут не вспомнить кинорежиссера и депутата Госдумы Станислава Говорухина и его "Великую криминальную революцию"), оказалась в прямом смысле слова изолированной. Сегодня она стоит перед выбором: быть ли ей государством цивилизованным или же остаться великим сырьевым придатком западных (да и восточных тоже) держав. Похоже, Россия выбрала первое. Но цивилизованный путь требует общения, инвестиций, торговых сношений и т.д. Короче, контактов и непосредственного выхода к развитым государствам. Но именно это, образно говоря, "окно в Европу" у России оказалось весьма и весьма узким.

В упрощенном виде ситуация сложилась следующая. Япония не может простить России промедления с решением проблемы четырех спорных островов (вспомните: японцы даже демонстративно отказались от помощи стороны России в ликвидации последствий землетрясения). Китай, пользуясь вакханалией "в землях российских", за счет России и ее нуворишей обустраивает свои необжитые просторы. Даже на Средний Восток (какая уж там цивилизация?) через республики бывшего Союза выход для России весьма проблематичен. И с Кавказом и с государствами Балтии ситуация однозначно не в пользу России. Во взаимоотношениях же с Украиной камнем преткновения стал Крым и Черноморский флот, что существенно затрудняет общение с Западной Европой. Тихоокеанский, Северный и Балтийский флоты проблему транспортных и иных связей и перевозок не решают тоже. Финляндия из-за своих природных северных условий также не может быть для России связующим звеном с развитыми странами. А тут еще бездарный "блиц-крах" военачальников в Чечне... И уязвленное самолюбие, желание во что бы то ни стало восстановить падение рейтинга руководства Российской Федерации, вынудили Кремль и Госдуму искать неадекватные пути и способы реабилитации как в своих глазах, так и в глазах россиян. Вот так и была взята "на прицел" тихая, спокойная и терпеливая Беларусь с ее еще не загубленными до конца тяжелой и легкой промышленностью, автомобильными и железнодорожными магистралями, газо-и нефтепроводными артериями. Выбор руководства Российской Федерации на первый взгляд вроде бы беспроигрышен: у власти Александр Лукашенко с его предвыборной программой на теснейший союз с Россией; часть народа выступает за воссоединение с восточным соседом; есть аморфный Верховный Совет, то есть все то, что нужно России.

Похоже, что стратеги Кремля уже просчитали возможные варианты парламентских выборов в мае и сделали, наверное, неутешительный вывод о том, что если законодательную ветвь власти возглавит БНФ (а к этому дело и идет), то льготный для России путь в Европу через Беларусь будет заказан и закрыт как минимум на 5 ближайших лет.

Именно поэтому и зачастили на Беларусь первые лица России: спешат до мая успеть заключить выгодные для себя (будем надеяться, что и для нас тоже) договора. Но время упущено: наш народ без особой эйфории воспринял подписанные недавно соглашения между Российской Федерацией и Беларусью. При этом и мы (наконец-то!) сделали для себя основной, а быть может, и главный вывод: мы можем жить самостоятельно, не заглядывая в рот "старшему брату", мы можем на взаимовыгодных условиях решать как насущные, так и перспективные задачи. И если нашему нынешнему руководству хватит ума, твердости и настойчивости, то Беларусь в скором времени станет равноправным партнером (а не "младшей сестрой") России.

Может показаться, что автор предвзято относится к проблемам восточного соседа. Никак нет! Просто каждая страна должна жить по возможностям и средствам. Почему Россия использует с превеликим успехом Богом данные ей природные ресурсы, а мы не можем в полной мере использовать тоже Богом данное геополитическое положение Беларуси в центре Европы?

**В.Н.ЩИТКОВЕЦ,**
**гвардии подполковник,**
**Н-ская в/ч.**

Я так думаю

## СССР умер, не оставив завещания

Сегодня бытует мнение о том, что лидеры трех республик — Ельцин, Кравчук и Шушкевич, подписавшие в декабре 1991 года Беловежские соглашения, якобы виновны в политическом развале СССР. На мой взгляд, такое мнение не имеет под собой основания. Как учили классики марксизма-ленинизма, к любому действию и событию надо подходить с учетом конкретной исторической обстановки. Стало быть, распад монстра по имени Союз Советских Социалистических Республик — закономерное явление, обусловленное общими тенденциями развития цивилизации. Это нужно понять, чтобы не "плакаться в жилетку" по "великой державе", а думать о том, как строить жизнь дальше исходя опять-таки из реалий времени. Чтобы жить по-европейски, нам, белорусам, нужна самая малость — надо перестать работать по-советски.

**Николай КОРОЛЬКОВ.**
*г.Минск.*

### Замест пасляслоўя фрагмент пісьма Алеся Несцяровіча з г.Маладзечна

"Пішу вам пра тое, што хвалюе.

Днямі ў Мінск прыязджае "рэвізор", прабачце, прэзідэнт Расіі спадар Ельцын Б.М. І ў сувязі з гэтым мне хочацца сказаць вось пра што. Быў час, калі нават школьныя падручнікі пераконвалі нас, што "Ленин и теперь живее всех живых" і ён па-ранейшаму "думае пра Беларусь".

А што сёння? Сёння па радыё і тэлебачанні толькі і чуеш: пра нас, беларусаў, думае Дзярждума Расіі. Атрымліваецца, што мы — людзі другога гатунку і зусім не здольныя думаць сваёй галавой і жыць сваім розумам? Інакш чым можна вытлумачыць такі шчыры клопат аб нас "старэйшай сястры" — Расіі. Можа, адказ на маё пытанне прывязе Барыс Мікалаевіч?"

**Пытанне Алеся Несцяровіча не рытарычнае. Задумаемся разам з ім і мы. Таму што ёсць над чым.**

## Адзіны рухавік, які можа выцягнуць Беларусь з багны, — гэта інтэлект нацыі

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

**— Што і казаць, планы добрыя, але ж на сённяшні дзень не прыняты нават шматпакутны закон аб свабодных эканамічных зонах, не кажучы ўжо пра многае іншае. Дык ці не застануцца вашыя задумы нейкімі манілаўскімі праэктамі, ці не спасцігне іх сумны лёс многіх грамадскіх ініцыятыў, "паспяхова" пахаваных уладнымі структурамі?**

— Мы верым і разлічваем, што ўжо бліжэйшая акцыя — Нацыянальная асамблея прагрэсіўных сіл Беларусі — надасць нашым задумам рэальныя абрысы, прымусіць улады прыслухацца да нашых ідэй. Нават па знешніх маштабах гэта будзе, без перабольшвання, унікальнае для рэспублікі мерапрыемства. На яго запрошаны больш за паўтары тысячы ўдзельнікаў з усіх рэгіёнаў нашай краіны, блізкага і далёкага замежжа. І гэта, паверце, не проста статысты, якіх збіраюць для "антуражу", а неардынарныя, думаючыя асобы — аўтарытэтныя філосафы і палітолагі, сацыёлагі і эканамісты, кіраўнікі вытворчасці і спецыялісты па барацьбе з карупцыяй, прадстаўнікі чацвёртай улады і прафсаюзаў... Адбудуцца як пленарныя пасяджэнні, так і спецыялізаваныя дыскусіі прадстаўнікоў той ці іншай сферы дзейнасці. Так, за адным сталом упершыню сустрэнуцца кіраўнікі прадпрыемстваў розных форм уласнасці, афіцыйных і неафіцыйных прафсаюзаў, дэпутаты Вярхоўнага Савета і тыя, хто збіраецца змагацца за месца ў новым парламенце. У рамках асамблеі пройдзе палітычная дыскусія такіх вядомых сёння палітыкаў, як Карпенка, Пазьняк, Шушкевіч...

Галоўныя ідэі, што прагучаць на форуме, будуць сфармуляваны ў выглядзе дакладных, лаканічных дакументаў. Мы пастараемся, каб гэтыя дакументы былі максімальна ачышчаны ад палітычнай кан'юнктуры, пустога фразёрства.

І гэта — толькі пачатак. Разлічваем, што асамблея дасць штуршок для стварэння цэлага шэрагу пастаянна дзеючых творчых калектываў, якія будуць усё больш глыбока і паслядоўна распрацоўваць навуковыя ідэі выхаду нашага грамадства з крызісу, стратэгію яго сацыяльна-эканамічнага рэфармавання.

На жаль, дагэтуль мы жылі і цяпер жывём у грамадстве, дзе галоўныя ідэі спускаюцца зверху. І таму яны звычайна адлюстроўваюць інтарэсы, а таксама ўзровень інтэлекту вузкага кола бюракратычнай эліты. Адсюль — і вынікі...

Становішча карэнным чынам зменіцца тады, калі задаваць тон у грамадскім жыцці пачне разняволены і разам з тым умела арганізаваны інтэлект усёй нацыі. Спадзяёмся, што дзейнасць асамблеі прагрэсіўных сіл дапаможа гэтай мэце, якую коратка можна ахарактарызаваць як стварэнне цывільнага грамадства.

Альтэрнатыва ж яму — таталітарызм, жахі якога нам ужо добра вядомыя і пакуль што, на жаль, не перасталі пагражаць...

**— Назва, якую вы далі асамблеі, да многага абавязвае. Як аддзяліць "прагрэсіўных" ад "непрагрэсіўных", "чыстых" ад "нячыстых"?**

— Мы імкнёмся аб'яднаць максімальна шырокі спектр асоб і сіл, але калі казаць пра нейкі водападзел, то ён, мусіць, выглядае менавіта так: альбо ідэя цывільнага грамадства, дзе пануюць прынцыпы дэмакратыі, здаровага эканамічнага сэнсу, свабоды асобы, альбо ідэя той ці іншай формы таталітарызму, дыктату дзяржавы над чалавекам, зняволення поглядаў і інтэлекту.

Другі варыянт у любым выпадку не мае шанцаў на доўгую перспектыву. Але мэта асацыяцыі "Геапалітыка. Інтэграцыя. Прагрэс" — паскорыць першы варыянт.

**Гутарыў**
**Кастусь АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Адліга ў Вязынцы

**Сяргей КРАПІВІН, фота аўтара**

*Надоечы быў снегапад,*
*мяккі і ціхі,*
*адзін з апошніх, мабыць, гэтай зімой,*
*і адразу ж прыйшла адліга.*
*Вятры, што прыносяць на сваіх плячах сумёты,*
*не бываюць сцюдзёнымі.*
*Мінская электрычка*
*гайданула вільготнымі бакамі*
*ля прыпынку Вязынка,*
*і хутка яе грукатанне*
*патанула ў тумане.*
*Мне не хацелася ісці да хаты Луцэвічаў*
*па ўтоптанай дарозе*
*паўз бетонныя слупы з мадэрновымі ліхтарамі.*
*Збочыў напачатку да вёскі,*
*каб прыгадаць,*
*чым пахне ранішні дым сялянскіх комінаў.*
*Капае са стрэх.*
*Раптоўна па дахавым жалезе*
*з нарастаючым шыпеннем*
*з'язджае, расталы знізу, снегавы пласт.*
*З асалодаю ляплю снежку,*
*моцную і хрумсткую,*
*нібы яблык антонаўскі.*
*Яна ляціць, ледзь чутно гудучы,*
*і з трэскам разлятаецца на браме,*
*пакінуўшы роўны конус.*
*А вось і Вязынка-рэчка:*
*Якія белыя берагі*
*і якая чорная глыбіня!*
*І толькі на водмелі*
*ярка зелянее трава.*
*Павольна рухаецца*
*шызае воблачка снегу*
*і знікае ў вадзе.*
*І тут раптам*
*пачынаеш разумець сэнс выразу:*
*"Халодны, як рыба".*
*Вымерз з-пад лёду прадзедаўскі човен.*
*Сумна: у ім няма куды плысці —*
*ні сёння, ні заўтра...*
*Быццам бы ён прыплыў,*
*як счарнелая хата па-над рэчкай.*
*Я праходжу ўзбоч ад яе,*
*бо ведаю,*
*што няма чаго зазіраць у шыбы,*
*калі з хаты пайшлі гаспадары*
*і ніколі ўжо іх не будзе.*
*Музей...*
*Але ж падалося на імгненне,*
*што па-за цьмянымі шкельцамі —*
*сумна-ўважлівы позірк*
*маленькага Янычкі Луцэвіча.*
*Усё тое,*
*што бачу я зараз,*
*ён бачыў амаль такім жа.*



